*На простор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 29 (4384)**

12 красавіка 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

Прафесар **Уладзімір ПЕРЛІН:** «У музыканта акрамя тэхнікі павінны быць яшчэ розум і высакародства».

БЕЛАРУСЬ – РОССИЯ

## Александр ЛУКАШЕНКО:
## «…Добро, которое мы делаем для Российской Федерации, оно нам оборачивается постоянно злом. Там уже обнаглели до такой степени, что начинают нам выкручивать руки»

Вчера Александр Лукашенко провел совещание с членами правительства экономического блока. Он, в частности, сказал:

*«…Меня что удивляет: последнее время (может, СМИ врут, может, специалисты докладывают мне кривую информацию), но я каждый день слышу и читаю информацию, что наш основной торговый партнер (они любят называть себя партнеры) все больше и больше вводит санкций против Беларуси. Сами находятся под санкциями и осуждают это, и я тут их абсолютно поддерживаю. Но в то же время подобным оружием воюют против ближайших своих союзников.*

*То одно предприятие закрыли, то другое. Потом то ли морковь, то ли салат, то ли уже огурцы не понравились. То ли у них подозрение есть, что мы что-то поставляем не оттуда. И каждый день происходит закрытие наших предприятий. Нам закрывают рынок».*

А.Лукашенко привел пример, как поступила белорусская сторона год или полтора назад, когда специалисты доложили, что в аварийном состоянии находятся нефтепровод и нефтепродуктопровод, которые идут через Беларусь: *«Именно по нефтянке. И нам надо было бы на несколько дней закрыть для ремонта эти нефтепроводы. Но мы ведь не поступили так. Мы понимали, что это нанесет ущерб Российской Федерации. И тогда я поручил работать в аварийном порядке, но не перекрывать эти дороги, по которым транспортируется главный экспортный продукт Российской Федерации – нефть».*

По его словам, этот вопрос и сейчас стоит в повестке дня. Александр Лукашенко, обращаясь к вице-премьеру Игорю Ляшенко, сказал: *«Если нужно поставить на ремонт нефтепроводы и нефтепродуктопроводы, которые идут через Беларусь, ставьте и ремонтируйте. Потому что то добро, которое мы делаем для Российской Федерации, оно нам оборачивается постоянно злом. Там уже обнаглели до такой степени, что начинают нам выкручивать руки… Мы должны принимать соответствующие меры. Ну что мы все время: нас бьют в левую щеку – мы подставляем правую. Разберитесь и доложите отдельно на следующей неделе».*



ЭКАНОМІКА

## «Інфляцыя запаволілася, а кошты растуць!»

*Як паведамляе Белстат, у першым квартале гэтага года інфляцыя склала 2,6%. Гадавая інфляцыя ў сакавіку запаволілася да 5,8%.*

*Экс-кіраўнік Нацбанка, доктар эканамічных навук* ***Станіслаў Багданкевіч*** *звяртае ўвагу, што цэны пры гэтым не спыніліся.*

– Мне жонка, вяртаючыся з крамы, кожны дзень гаворыць, што нешта падаражэла, – *гаворыць Багданкевіч.* – Ды я і сам бачу гэта па медыкаментах, якія рэгулярна ўжываю, – кошты на іх падвышаюцца! Відаць, толькі па нейкіх відах і групах тавараў інфляцыя запаволілася. Напрыклад, ёсць некаторае зніжэнне коштаў у будаўніцтве, на жыллё, абсталяванне. А тое, што тычыцца жыцця сям'і, аховы здароўя – ніякага запаволення няма!

У мяне сын часта ездзіць ва Украіну, у Львоў. І кажа, што там на парадак усё танней – і лекі, і прадукты...

*Эканаміст, сустаршыня Саюза юрыдычных асоб "Рэспубліканская канфедэрацыя прадпрымальніцтва"* ***Віктар Маргелаў*** *тлумачыць: калі ацэньваюць інфляцыю, назіраюць за пэўнай групай тавараў.*

– Ёсць тры віды хлусні: хлусня, святая хлусня і статыстыка, – *усміхаецца Маргелаў.* – Статыстыка заснавана на вельмі фармальным падыходзе, і яе не толькі ў нашай краіне ацэньваюць па вельмі замкнёным, абмежаваным спісе канкрэтных тавараў. Цэнам на гэтыя тавары ўрад надае асаблівую ўвагу. Напрыклад, у гэтым спісе ёсць малако 2,5-працэнтнай тлустасці – дык вось кошт на гэты прадукт будзе вельмі жорстка кантралявацца, а малако 3,2-працэнтнай тлустасці пры гэтым можа даражэць.

Таму людзі і здзіўляюцца, што кошты растуць, а інфляцыя паводле дадзеных эканамістаў запаволілася...

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

СІТУАЦЫЯ

## Міліцыя і апазіцыя будуць судзіцца?

*Арганізатары мерапрыемстваў на Дзень Волі ў сталічным Кіеўскім скверы чакаюць адказу ад ГУУС Мінгарвыканкама.*

Як вядома, арганізатары святкавання Дня Волі ў Мінску, сярод якіх быў шэраг апазіцыйных партый і арганізацый, прынялі рашэнне адмовіцца ад аплаты паслуг міліцыі.

Прэтэнзіі да працы сталічнай міліцыі былі сфармуляваны ў пісьмовай форме, іх аднеслі ў ГУУС Мінгарвыканкама.

*"У міліцыі нам паказалі акт, у якім пазначана, што мы павінны заплаціць 6385 рублёў (250 базавых велічынь),* – кажа сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" **Вольга Кавалькова**, якая і аднесла заяву ў ГУУС Мінгарвыканкама. – *Пры гэтым колькасць удзельнікаў акцыі была пазначана, як больш за 1000 чалавек. Праўда, пры гэтым нам не прадаставілі ніякіх аргументаў наконт таго, якім чынам адбываўся падлік.*

*Яны спасылаюцца на тое, што інфармацыю пра колькасць удзельнікаў бралі... з інтэрнэту. Гэта выглядае ўжо зусім смешна, калі мы кажам пра юрыдычныя дамоўныя адносіны".*

*"Мы патрабуем абгрунтавання лічбаў падліку колькасці ўдзельнікаў мерапрыемства,* – дадае старшыня руху "За Свабоду" **Юрась Губарэвіч**. – *Зараз сталічная міліцыя пакуль маўчыць, але, наколькі мне вядома, да 17 красавіка павінны даць нейкі адказ.*

*У сваю чаргу мы пакуль таксама нічога не плацілі за аказанне паслуг падчас акцыі. Ды і грошай на гэта, шчыра кажучы, не хапае. Сабрана толькі палова той сумы, якую неабходна заплаціць".*

Юрась Губарэвіч дадае, што, калі бакі не прыйдуць да згоды, то адбудзецца суд, які і паставіць кропку ў грашовай спрэчцы.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДЫПКУР'ЕР

## Пацісну руку каралю!

*Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Іспаніі Павел Пуставы ўчора ўручыў даверчыя граматы Яго Вялікасці Каралю Іспаніі Філіпу VI.*

Цырымонія, падчас якой шэсць замежных паслоў уручылі даверчыя граматы, прайшла ў каралеўскім палацы Мадрыда.

Пасля ўручэння даверчых грамат адбылася размова іспанскага манарха з беларускім амбасадарам. Філіп VI адзначыў высокі ўзровень беларуска-іспанскага супрацоўніцтва ў розных галінах узаемадзеяння, асабліва звярнуўшы ўвагу на высокі ўзровень развіцця сферы інфармацыйных тэхналогій у Беларусі.

СЛЫШАЛИ?

## «Белгазпромбанк» – меценат года

Такого высокого звания он заслужил за ряд проектов, реализованных в 2018 году. «Белгазпромбанк», в частности, поддержал издание книг нобелевского лауреата Светланы Алексиевич на белорусском языке, заказав дополнительный тираж уникального пятитомного издания с последующей передачей в книжные фонды всех областных и районных библиотек Беларуси, затратив на это 231.950 белорусских рублей.

Награду из рук главы Министерства культуры **Юрия Бондаря** получил советник председателя правления «Белгазпромбанка» **Владимир Сажин**.

НАПЯРЭДАДНІ

## Суботнік пройдзе 20 красавіка

Адпаведнае рашэнне замацавана ў пастанове Савета міністраў №231 ад 10 красавіка 2019 года, паведамляе прэс-служба ўрада.

Грашовыя сродкі, зробленыя ў дзень правядзення рэспубліканскага суботніка, будуць пералічаны праз раённыя і гарадскія выканкамы ў аблвыканкамы і Мінскі гарвыканкам.

Прадугледжана, што 50 працэнтаў грашовых сродкаў застаюцца ў распараджэнні аблвыканкамаў і Мінскага гарвыканкама, а астатнія 50 працэнтаў пералічаць Міністэрству фінансаў.

СКАНДАЛ

## Из Белорусского независимого профсоюза вышли сотни людей

### «Народная Воля» разбиралась, что происходит.

*Кажется, еще совсем недавно Белорусский независимый профсоюз праздновал победу – после долгой борьбы, включая судебное разбирательство, была зарегистрирована первичная организация БНП на УСП «Трест «Реммонтажстрой». На момент регистрации этой первички БНП в ней состояло более 400 человек. А на 10 апреля осталось лишь 215. Двести человек перешли в Федерацию профсоюзов Беларуси.*

*Отток людей в последние месяцы наблюдается и в структурах Независимого профсоюза горняков. Например, на Втором рудоуправлении ОАО «Беларуськалий» из независимого профсоюза на сегодняшний день вышло 126 человек, на третьем – 130. В одной из самых сильных организаций НПГ – Первого рудоуправления – ряды независимого профсоюза покинули 78 человек. Всего из Независимого профсоюза горняков вышло около 600 человек.*

*Что происходит?*

***«Народная Воля» попросила ответить на эти вопросы представителей Белорусского независимого профсоюза.***

**Александр Сечко, председатель первичной организации Белорусского независимого профсоюза треста «Реммонтажстрой»:**

– Пока мы добивались регистрации нашей организации, наниматель не вмешивался. Нас зарегистрировали, люди обрадовались, и какое-то время все было хорошо. Директор предприятия **Вячеслав Курбыко** на отчетно-выборной профсоюзной конференции 12 марта сказал, что никакого давления на членов независимого профсоюза не будет. Но вскоре немалая часть членов независимого профсоюза буквально за считанные дни написала заявления о выходе из его рядов. Некоторые из них потом рассказывали, что их вызывали на беседу к начальству, которое объясняло: членство в официальном профсоюзе для них перспективнее – в плане получения разряда и профессионального роста. Говорили еще, что если не выйдут из независимого профсоюза, то их в Петриков на строительство горно-обогатительного комбината отправят. А там условия хуже и зарплата меньше. Вот и не выдержали люди нажима…

Но у нас в организации остался крепкий костяк. Надеюсь, выстоим!

**Александр Мишук, заместитель председателя Независимого профсоюза горняков Второго рудоуправления:**

– Почти 90 процентов из тех, кто вышел из независимого профсоюза на РУ-2, состояли одновременно в НПГ и в Белхимпрофсоюзе. Белхимпрофсоюз внезапно поставил этих работников перед выбором: либо членство в одном профсоюзе, либо в другом. Выбрали Белхимпрофсоюз, видимо, потому, что к нему администрация относится лояльнее, благожелательнее, чем к НПГ. Ведь даже генеральный директор «Беларуськалия» **Иван Головатый** недавно вступил в Белхимпрофсоюз.

Да, в официальных разговорах с руководителями независимого профсоюза, в том числе и на уровне рудоуправлений, представители нанимателя говорят, что для них не имеет значения, в каком профсоюзе состоит человек, но на самом деле на работников в последнее время идет скрытое давление.

У людей появился страх. Слухи кто-то распускает, что якобы следующий коллективный договор будет распространяться только на членов Белхимпрофсоюза. Я отправил SMS-сообщения членам НПГ РУ-2 с просьбой поддержать Независимый профсоюз. Пришло много ответов со словами поддержки.

**Андрей Фидрик, заместитель председателя НПГ Третьего рудоуправления:**

– Мы составили список руководителей и должностных лиц РУ-3, которые приглашают членов независимого профсоюза на разговор и принуждают их к переходу в провластный профсоюз, заявляя, что иначе не будет роста по карьерной лестнице, не будет повышения разрядов, обучения другим специальностям, что возникнут вопросы с продлением контракта…

Председатель организации НПГ РУ-1 **Ирина Зыль** считает, что в данной ситуации нужно действовать более активно. Объяснять людям, что в тот же Петриков будут отправлять работников все равно, даже если все выйдут из независимого профсоюза. Не остановят же там строительство комбината! Она говорит, что из независимого профсоюза на РУ-1 по сравнению с общей численностью вышло не так много людей. Ирина Зыль уверена, что впереди их ожидает нелегкая борьба за сохранение профсоюза.

Лидер Независимого профсоюза горняков **Сергей Черкасов** подчеркнул: в ОАО «Беларуськалий» происходит дискриминация по членству в профсоюзе: *«Людям дают понять, что продолжение их трудовой деятельности на предприятии, их профессиональный рост, благоприятное решение иных вопросов, которые входят в компетенцию нанимателя, – все это увязано с тем, в каком профсоюзе они состоят».*

Сергей Черкасов уверен: подобное давление является нарушением коллективного договора, закона «О профсоюзах», Трудового кодекса, Конституции нашей страны, международных норм.

Председатель Белорусского независимого профсоюза **Николай Зимин** рассказал «Народной Воле», что проинформировал Солигорскую прокуратуру о вмешательстве администрации во внутренние дела профсоюза, что является нарушением Закона о профессиональных союзах.

Председатель организации Белхимпрофсоюза ОАО «Беларуськалий» **Андрей Струневский** подтвердил «Народной Воле»: Белхимпрофсоюз действительно принял решение, что члены их профсоюза не должны находиться одновременно в нескольких профсоюзах. Тем более что эта норма прописана в уставе. Струневский говорит, что те, кто решил покинуть независимый профсоюз, сделали свой добровольный выбор.

«Никакого давления и принуждения на них не оказывалось», – говорит он.

Вот поди и разберись, кто тут прав и почему действительно сотни горняков сбежали из независимого профсоюза.

В любом случае вся эта история свидетельствует об одном: далеко еще нам до настоящей демократии.

**Лариса НАСАНОВИЧ.**
*Солигорск.*

СІТУАЦЫЯ

# Як Марыя Тарасенка перастала быць «дармаедкай»

*Гамяльчанка стала першай у Беларусі «не занятай у эканоміцы», хто вырашыў адстойваць свае правы ў судзе. І барацьба дала плён.*

Нагадаем: пра тое, што Марыю Тарасенка ўключылі ў спіс «дармаедаў», яна даведалася ў студзені гэтага года ад работніка ЖЭУ. Жанчына жыве ў двухпакаёвай кватэры з мужам, які забяспечвае сям'ю, і не лічыць, што павінна нешта плаціць дзяржаве.

*«Я штодзень купляю тавары, карыстаюся нейкімі паслугамі,* – патлумачыла Марыя. – *Адпаведна, плачу шэраг ускосных падаткаў. Чаму дзяржава лічыць, што я не занята ў эканоміцы?»*

Жанчына звярнулася не толькі ў адпаведную «дармаедскую» камісію з патрабаваннем выключыць яе з такога спісу, але і падала ў суд іск аб кампенсацыі маральнай шкоды за пакуты, якія яна цярпіць у сувязі з тым, што яе лічаць «не занятай у эканоміцы».

І вось не так даўно яна атрымала афіцыйны ліст з камісіі па каардынацыі работы ў спрыянні занятасці насельніцтва пры адміністрацыі Чыгуначнага раёна Гомеля, у якім паведамляецца, што Марыя Тарасенка ўжо выключана са спіса людзей, «не занятых у эканоміцы».

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Основные жилищно-коммунальные услуги (по субсидируемым тарифам): | | | | | | | | |
| 1 | Техническое обслуживание | м.кв. | 30 | 0.1187 | 3.56 | 0.00 | 0.00 | 3.56 |
| 2 | Капитальный ремонт | м.кв. | 46.37 | 0.1001 | 4.64 | 0.00 | 0.00 | 4.64 |
| 3 | Горячее водоснабжение (подогрев воды) | Гкал | 0.3338 | 16.9259 | 5.65 | 0.00 | 0.00 | 5.65 |
| 4 | Холодное водоснабжение | м.куб. | 4.34 | 0.8338 | 3.62 | 0.00 | 0.00 | 3.62 |
| 5 | Водоотведение (канализация) | м.куб. | 4.34 | 0.6383 | 2.77 | 0.00 | 0.00 | 2.77 |
| 6 | Техническое обслуживание лифта | чел. | 1 | 1.4000 | 1.40 | 0.00 | 0.00 | 1.40 |
| 7 | Обращение с твердыми коммунальными отходами | м.куб. | 0.1708 | 7.3333 | 1.25 | 0.00 | 0.00 | 1.25 |
| 8 | Санитарное содержание вспомогательных помещений (возм. расходы) | чел. | 1 | 0.4548 | 0.45 | 0.00 | 0.00 | 0.45 |
| Итого за основные жилищно-коммунальные услуги | | | | | 23.34 | 0.00 | 0.00 | 23.34 |
| Основные жилищно-коммунальные услуги (по тарифам, обеспечивающим полное возмещение экономически обоснованных затрат): | | | | | | | | |
| 1 | Техническое обслуживание | м.кв. | 16.37 | 0.1274 | 2.09 | 0.00 | 0.00 | 2.09 |
| 2 | Холодное водоснабжение | м.куб. | 2.66 | 0.9367 | 2.49 | 0.00 | 0.00 | 2.49 |
| 3 | Водоотведение (канализация) | м.куб. | 2.66 | 0.8020 | 2.13 | 0.00 | 0.00 | 2.13 |
| Итого за основные жилищно-коммунальные услуги | | | | | 6.71 | 0.00 | 0.00 | 6.71 |
| Возмещаемые расходы: | | | | | | | | |
| 1 | Электроэнергия на освещение вспом. помещений и работу оборудования, за исключением лифтов | чел. | 1 | 0.2900 | 0.29 | 0.00 | 0.00 | 0.29 |
| 2 | Электроэнергия на работу лифтов | чел. | 1 | 0.4100 | 0.41 | 0.00 | 0.00 | 0.41 |
| Итого за возмещаемые расходы | | | | | 0.70 | 0.00 | 0.00 | 0.70 |
| Всего начислено | | | | | 30.75 | 0.00 | 0.00 | 30.75 |

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Основные жилищно-коммунальные услуги (по тарифам, обеспечивающим полное возмещение экономически обоснованных затрат): | | | | | | | | |
| 1 | Техническое обслуживание | м.кв. | 16.37 | 0.1274 | 2.09 | 0.00 | 0.00 | 2.09 |
| 2 | Горячее водоснабжение (подогрев воды) | Гкал | 0.2026 | 88.9900 | 18.03 | 0.00 | 30.16 | 48.19 |
| 3 | Холодное водоснабжение | м.куб. | 3.08 | 0.9367 | 2.89 | 0.00 | 0.00 | 2.89 |
| 4 | Водоотведение (канализация) | м.куб. | 3.08 | 0.8020 | 2.47 | 0.00 | 0.00 | 2.47 |
| Итого за основные жилищно-коммунальные услуги | | | | | 25.48 | 0.00 | 30.16 | 55.64 |
| Возмещаемые расходы: | | | | | | | | |
| 1 | Электроэнергия на освещение вспом. помещений и работу оборудования, за исключением лифтов | чел. | 1 | 0.3100 | 0.31 | 0.00 | 0.00 | 0.31 |
| 2 | Электроэнергия на работу лифтов | чел. | 1 | 0.4500 | 0.45 | 0.00 | 0.00 | 0.45 |
| Итого за возмещаемые расходы | | | | | 0.76 | 0.00 | 0.00 | 0.76 |
| Всего начислено | | | | | 43.25 | 0.00 | 24.52 | 67.77 |

| | | |
|---|---|---|
| Телефоны РСЦ№7: специалист по коммун.расчетам 63-28-51, 63-99-20, 63-99-21; паспортист 63-29-43. Номера телефонов: ЖЭУ-1: 27-42-13; ЖЭУ-2: 73-15-99; ЖЭУ-4: 22-31-37.31-16-83; ЖЭУ-6: 26-65-78,26-65-79; ЖЭУ-7: 22-61-01; ЖЭУ-9: 62-48-65,62-39-85. | Итого начислено | 67.77 |
| | Переходящий остаток (задолженность; средства, зачисленные в счет будущих платежей) | -11.01 |
| | Пеня на 28.02.2019 | 0.11 |
| | Сумма безналичной жилищной субсидии | 0.00 |
| | Земельный налог | 0.03 |
| | Арендная плата за земельный участок | 0.00 |
| | К ОПЛАТЕ | 56.90 |

**«Дармаедцы» Марыі Тарасенка налічылі за люты амаль у тры разы больш, чым за студзень.**

– На камісію мяне не запрашалі, ды я туды і сама не збіралася, – кажа «рэабілітаваная» жанчына. – Безумоўна, задаволена вынікам, але перамога аказалася частковай, бо мяне выключылі са спіса «дармаедаў» ўсяго на год. А з 1 студзеня 2020 года, наколькі я разумею, зноў усё пойдзе па новым коле.

**– За камунальныя паслугі па новых тарыфах вы ўжо плацілі?**

– Жыроўка, якую я атрымала ў студзені, налічвалася па-старому, трэба было заплаціць за двухпакаёўку каля 20 рублёў. А вось «камуналка» за люты з улікам таго, што мяне залічылі ў «дармаеды», вырасла да 57 рублёў – практычна ў тры разы.

Пры гэтым кошт гарачай вады падаражэў у 5,5 разу ў параўнанні з тым, які дзяржава выстаўляе не ўнесеным у спісы «не занятых у эканоміцы». Натуральна, я за люты пакуль нічога не плаціла. А зараз, відаць, ізноў будзе пераразлік.

**– Камісія выключыла вас са спісаў «дармаедаў», бо вы «знаходзіцеся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі»...**

– Мяне, хутчэй за ўсё, вырашылі пакінуць у спакоі, калі я пачала судзіцца і адстойваць свае правы. Мяркую, у наступным годзе прыйдзецца зноў даказваць, што я – не «дармаед».

КАМЕНТАРЫЙ ЮРЫСТА

## Леанід СУДАЛЕНКА: «Плануем зарэгістраваць Асацыяцыю «дармаедаў»

– Той факт, што Марыю Тарасенка выключылі са спіса «дармаедаў», як мне падаецца, гэта сігнал для жанчыны, каб яна спынілася ў сваім змаганні за праўду, – кажа юрыст прафсаюза РЭП. – Але мы разам з ёй пачалі стратэгічную барацьбу, якая ўключае ў сябе не толькі прававыя, але і інфармацыйныя дзеянні. І справа Марыі Тарасенка – гэта інструкцыя для іншых «не занятых у эканоміцы» людзей. Сітуацыя паказала, што, калі чалавек аказвае супраціў, то чыноўнікі адступаюць.

Зараз, нягледзячы на тое, што Марыю выключылі з «дармаедскага» спіса, паспрабуем праз суд атрымаць кампенсацыю за маральны ўрон. Акрамя таго, яна плануе сабраць дзесяць «не занятых у эканоміцы» чалавек і падаць дакументы на рэгістрацыю Асацыяцыі «дармаедаў», пры гэтым Марыя гатова ўзначаліць арганізацыю.

Мы будзем прадпрымаць усё дзеля таго, каб вышэйзгаданы дэкрэт быў адменены. І дзеля гэтага выкарыстаем усе ўнутраныя сродкі праваабароны, магчыма, нават звернемся ў Камітэт па правах чалавека ААН.

У хуткім часе пачнецца выбарчая кампанія ў Палату прадстаўнікоў, таму дэпутаты таксама павінны падключыцца да праблемы. Будзем задаваць ім пытанне: што яны зрабілі для таго, каб дэкрэт калі і не быў бы адменены, дык хаця б яго адправілі на праверку ў Канстытуцыйны суд?

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ

# Каліноўскі – наш!

Паэты могуць быць сапраўднымі настрадамусамі – у гэтым я пераконваўся неаднойчы. Вось і яшчэ раз пераканаўся, напаткаўшы ў прызабытага ўжо Міколы Купрэева верш, які пачынаецца радкамі: «*Пасля маланкі, грому і дажджу / разверзлася гара над Святаянскімі мурамі...*». І далей – пра чэрап Каліноўскага, які выкаціўся з размытай Гедымінавай гары і пакаціўся па Беларусі, стукаючыся аб крыжы на магілах паўстанцаў.

Верш датаваны 1987 годам… Адкуль Купрэеў ведаў, што ў 2017-м станецца менавіта так – і гара пад залевай «папаўзе», і чэрап Каліноўскага з амаль стопрацэнтнай верагоднасцю будзе апазнаны? Ведаў. Бо быў паэтам. А значыць – празорцам.

Праўда, рэальнаму чэрапу стаць пакаці-гарошкам не далі літоўскія археолагі (дзякуй ім) – паклалі ў скрынку і да пары да часу схавалі ў надзейным месцы. І правільна зрабілі. А то ўявіце сабе: на паўдарозе ад магілы паўстанца Францішка Багушэвіча ў Жупранах да брацкай магілы касінераў пад Мілавідамі стукнуўся чэрап Каліноўскага аб наваксаваны чаравік гісторыка-дэпутата Ігара Марзалюка. І што тады? У лепшым выпадку – пасылка, паштамт, Варшава, у горшым – на сметнік. Паколькі чэрап той верай і праўдай служыў, на думку Марзалюка, «польскаму мяцежніку, які распальваў рэлігійную варажнечу», а значыць, героем у Беларусі заставацца не павінен.

Беларускае МЗС выказалася больш дыпламатычна: «Каліноўскі – гэта супольная спадчына Беларусі, Польшчы і Літвы». Але ці так гэта насамрэч? У польскіх школьных падручніках па гісторыі пра Каліноўскага – ні слова (ці ведае пра гэта Марзалюк?). У літоўскіх Каліноўскі згадваецца, але на першай ролі ў паўстанні там свой герой – Антанас Мацкявічус.

Нікому, як выглядае, Кастусь Сымонавіч не патрэбны. Нікому, апрача нас, беларусаў. І мы, беларусы, даўно і цалкам заслужана змясцілі яго ў почат герояў. Я спецыяльна пацікавіўся, як падавалі Каліноўскага нашы энцыклапедыі розных эпох, аўтарамі якіх былі людзі розных палітычных перакананняў.

«Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» ў 12 тамах (гады выдання – 1969–1975, наклад – 25.000 асобнікаў) называе яго «беларускім рэвалюцыянерам-дэмакратам і мысліцелем, кіраўніком паўстання 1863–1864 гадоў на Беларусі і ў Літве, палымяным абаронцам свабоды і народнага самакіравання, які адстойваў правы беларускага народа на свабоду і развіццё нацыянальнай культуры».

Паводле шасцітомнай «Энцыклапедыі гісторыі Беларусі» (выдадзенай у 1993–2003 гадах накладам 10.000 асобнікаў), «Каліноўскі – рэвалюцыянер-дэмакрат, публіцыст і паэт, адзін з кіраўнікоў паўстання ў Польшчы, Беларусі і Літве, які абгрунтаваў першую праграму барацьбы за палітычнае і духоўнае вызваленне беларускага народа і стаў адным з самых вядомых прадстаўнікоў беларускай нацыі ў свеце».

Са старонак 18-томнай «Беларускай энцыклапедыі» (выйшла ў 1996–2004 гадах таксама дзесяцітысячным накладам) Каліноўскі паўстае «лідарам беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, адным з кіраўнікоў паўстання, публіцыстам, які садзейнічаў станаўленню беларускай літаратурнай мовы».

І нарэшце найноўшая акадэмічная «Гісторыя беларускай дзяржаўнасці» ў 5 тамах (сёлета выйшлі першыя два) сцвярджае: «У ходзе паўстання К.Каліноўскі дэклараваў ідэю аб палітычнай суб'ектнасці Беларусі у адносінах з Расіяй і Польшчай, а ў сваіх «Лістах з-пад шыбеніцы» напоўніў сэнсам беларускую нацыянальную ідэю, якая нарадзілася ў полымі вызваленчага руху. Што засведчана і зваротам-паролем паўстанцаў: «Каго любіш? – Люблю Беларусь! – Дык узаемна!». Тэкст праілюстраваны паўстанцкімі пячаткамі, на адной з якіх словы: «Свабода. Роўнасць. Незалежнасць».

Заўважце, ніводнае з названых аўтарытэтных выданняў не ставіць пад сумнеў гераічнасць асобы Каліноўскага, яго нацыянальную прыналежнасць. Усе – шырока цытуюць выдаваную ім «Мужыцкую праўду», якая заслугоўвае асобнага лаўровага вянка. Гэта з яе пачаўся беларускі незалежны друк. Гэта яна ўсяго за год разварушыла тры губерні – Гродзенскую, Мінскую і Віленскую, стаўшы тым крэсівам, ад якога запаліўся агонь паўстання. Гэта пра яе складалі цыркуляры царскія приставы і губернатары. Гэта ёй, напісанай на зразумелай народу мове, удавалася ператвараць учарашніх мірных касцоў у ваяўнічых касінераў.

Як абвясцілі літоўскія ўлады, урачыстае перапахаванне кіраўнікоў паўстання адбудзецца восенню на вільнюскіх могілках Росы, куды мяркуецца запрасіць і афіцыйных асоб з Беларусі. І гэта той выпадак, калі адмаўляцца не выпадае. Неабходна ехаць – і каб годна прадставіць краіну, і каб пацвердзіць, што ў нашых энцыклапедыях не туфта напісана.

Часам, выступаючы перад школьнікамі, я прапаноўваў ім на імгненне «пабыць Каліноўскімі», ператварыўшы ў ролевую гульню радкі Алеся Разанава: «*Усе ніці у сувой, / у заклік пагалоскі / з'яднаць – і стаць сабой!.. / Як зваць вас?*»… І тут жа чуўся шматгалосы адказ: «*Каліноўскі!*»

З дзецьмі мы трохі рэпетавалі. У Вільнюсе на Росах давядзецца абысціся без рэпетыцый. І пабыць... Хоць шэптам.

ПРАЕКТ

## Кітайцы пабудуюць спартыўныя аб'екты ў Беларусі на сваіх умовах

*Палата прадстаўнікоў ратыфікавала пагадненне паміж урадамі Беларусі і Кітая аб рэалізацыі двух маштабных праектаў у Мінску ў спартыўнай галіне. Гаворка пра будаўніцтва Нацыянальнага футбольнага стадыёна і басейна міжнароднага стандарту.*

Кітайскі бок бярэ на сябе ўсё матэрыяльнае забеспячэнне: ад праектавання і паставак матэрыялаў да вызначэння колькасці персаналу, які будзе працаваць на будоўлях. Папярэднія разлікі паказваюць, што на гэтыя мэты неабходна каля 180 мільёнаў долараў, і гэты крэдыт трэба будзе Кітаю вяртаць, паведамляе svaboda.org.

Беларускія выдаткі абмяжуюцца толькі аплатай афармлення дазвольных дакументаў і работамі па падрыхтоўцы тэрыторыі.

ЗА ПРОХОДНОЙ

# Как дела на «Мотовело»?

*Об этом «Народная Воля» расспросила председателя профкома предприятия* ***Ивана Синицу****.*

– Работаем потихоньку, – *ответил Иван Павлович на вопрос «Народной Воли»*. – У нас же не одно предприятие, а несколько. Например, ОАО «Мотовело» находится в стадии банкротства. В июне дело должен рассмотреть Экономический суд… На «Мотовело» сейчас работает антикризисный управляющий.

**– А как обстоят дела на ООО «МотоВелоЗавод», где директорствует Николай Ладутько?**

– Неплохо. По сравнению с прошлым годом объемы продукции значительно выросли, это касается и велосипедов, и мотопродукции. Так что мы стабильно работаем – вопросов нет.

**– А рынок сбыта? Знаю, раньше с продажами были проблемы…**

– Сегодня продукция не собирается на складах – всё делается под конкретные договоры и заказы.

**– Заказы откуда в основном идут?**

– Отовсюду понемногу: Россия, Украина, Средняя Азия… Все заказы на готовую продукцию поступают под маркой нашего завода. В убыток себе не работаем. И зарплата у нас выплачивается вовремя.

**– По итогам минувшего года вышло даже чуть больше 500 долларов…**

– Да, свыше 1000 рублей. Это в целом и по «Мотовело», и по «МотоВелоЗаводу». Ну а что будет после июня – пока прогнозировать сложно. Надо смотреть, какое решение примет суд по «Мотовело». За этим предприятием сегодня осталось закреплено все, что связано с энергетическим хозяйством, техническим обслуживанием, уборкой. Ну и очень большой долг висит… А кредиторы – банки. Поэтому вопросов море…

**– Может, имуществом расплачиваться придется?**

– Да не хватит имущества, чтобы всё погасить! Это долги, которые остались еще от бывших хозяев завода, от бизнесмена Александра Муравьева. Поэтому и непонятно, что будет дальше…

**– Сколько сегодня на предприятии человек осталось? Знаю, что уволилось немало…**

– Если брать все предприятия, то около 300 человек примерно.

**– А конкретно на «МотоВелоЗаводе» сколько занято?**

– Примерно под 80. В принципе, сейчас ситуация более-менее стабильна, уже никто не увольняется так активно, как было несколько лет назад.

**– Тогда уходили, потому что зарплата была низкой? Или просто после ареста Муравьева ситуация на предприятии была совсем туманной?**

– И неопределенность была, и вопросы с контрактами были – не продлевали… Некоторые хорошие специалисты сами уходили, потому что нашли работу лучше.

**– Когда Николая Ладутько назначили гендиректором, честно говоря, мало кто верил в его управленческий талант…**

– Ладутько вначале пришел на «Мотовело», а затем, когда началась процедура банкротства, появился антикризисный управляющий, он остался на «МотоВелоЗаводе». В принципе, он экономику знает, со спецификой разобрался.

**– Плюс административный ресурс у него наверняка остался, связи…**

– На мой взгляд, административного ресурса у него как раз и не осталось. И со связями не так все просто, когда вопрос касается конкретного производства…

От нас поступало много предложений по развитию предприятия – и в Совмин, и в Министерство промышленности. Но пока никакой конкретики нет. Мы пытались и с Китаем сотрудничать, и с Россией планировали выйти на совместную работу. Были предложения по кооперации с различными белорусскими предприятиями, но пока реакции нет. Возможно, какие-то вопросы прорабатываются…

**– А что у вас с китайцами не срослось? Так красиво рассказывалось в прессе о том, что стратегическим партнером предприятия станет китайский инвестор. Тем более большинство комплектующих для белорусских велосипедов и мотоциклов производится в Китае…**

– Если бы у нас не было этого камня на шее в виде огромного долга, может, и получилось бы всё…

Если долг отбросить, думаю, не только китайцы проявили бы интерес к нашему предприятию. Но как его отбросишь?

Ну и еще нюанс: как выкупать предприятие – единым комплексом или частями? Есть ряд других вопросов, которые надо решить…

**– Если бы у меня были большие деньги, то, честно говоря, после истории с бывшим владельцем завода бизнесменом Муравьевым, который сейчас находится в тюрьме, я не стала бы инвестировать в «МотоВелоЗавод». И друзьям вряд ли рекомендовала бы…**

– А мне кажется, если бы не было долга, то инвесторы пошли бы.

**– Но Муравьев ведь тоже инвестировал немало…**

– Он больше на словах говорил… При нем закупили некоторое оборудование, кое-что сделали, но при этом долгов наплодили в десяток раз больше, чем обещанных инвестиций…

**– Я недавно делала интервью с директором Белорусско-Китайского индустриального парка Александром Ярошенко. Ладутько предлагал перенести производство велосипедов и мотоциклов из Минска в *«Великий камень»* и таким образом поддержать завод, создать льготные условия работы. Но Ярошенко расплывчато прокомментировал эту инициативу: мол, проект не потерял своей актуальности… Может, уже есть какая-то конкретика?**

– А сегодня у нас почти всё так расплывчато. Нет конкретных формулировок. Видимо, чтобы дело сдвинулось с мертвой точки, нужно принять принципиальное решение на самом высоком уровне. Мингорисполком, который является учредителем «МотоВелоЗавода», наверное, тоже ждет какой-то отмашки. Потому что по всей заводской площадке должно быть решение Совмина.

**– Иван Павлович, если не ошибаюсь, вы раньше были председателем профкома на «Мотовело»…**

– У нас общий профсоюз и один коллективный договор, который распространяется на все предприятия.

**– Тогда расскажите, с какими вопросами к вам как к руководителю профсоюза сегодня приходят рабочие. Например, раньше профсоюзы занимались распределением путевок, а сейчас?**

– Путевками мы по-прежнему занимаемся – это даже в колдоговоре записано. А вопросов, по которым обращаются, очень много! Например, контракты. У нас около десяти предприятий, некоторые сейчас находятся в процессе ликвидации. Есть вопросы по контрактам, по выдаче зарплаты. Некоторые наши бывшие работники обращались в суд, потому что не все выплаты при увольнении были сделаны в срок. Мы помогаем составлять исковые заявления.

**– А с контрактами какие вопросы возникают? Люди возмущаются, что их заключают не на пять лет, а лишь на год?**

– На год – это не нарушение. А вот на меньший срок заключить контракт можно лишь с согласия человека. У нас по колдоговору за три года до выхода на пенсию не имеют права сократить работника без его согласия. И обязаны продлевать контракт! Бывают, конечно, разные нюансы, но мы это требование выполняем.

Некоторые вопросы приходится решать напрямую с руководителями предприятий. Но наши работники знают, что такое профсоюз и что всегда можно обратиться к председателю профкома. И люди идут со своими проблемами не к директору, а ко мне. Даже если проблема не совсем по нашему профилю. Не хочу хвастаться, но почти все вопросы решались.

Я всех директоров наших предприятий знаю. С Ладутько у нас нормально отношения складываются, мы в 2018 году новый коллективный договор подписали. И Ладутько, и антикризисный управляющий, и кредиторы – все дали согласие. Колдоговор не ухудшил, а даже немного улучшил положение работников.

**– Одно время было много нареканий на коллективные договора…**

– Людям всегда хочется большего, но нужно ведь и учитывать конкретные возможности! Конечно, мы не можем тягаться с БелАЗом или Тракторным заводом, где всем ветеранам к праздникам выплаты идут. У нас это практически невозможно.

**– Некоторые шутят, что вы можете велосипеды пенсионерам дарить…**

– У нас сегодня около 700 человек бывших работников – пенсионеров стоят на учете. Каждому велосипед не подаришь…

**– А сколько сегодня отчисляется на профсоюзные взносы?**

– Как и было – один процент от зарплаты конкретного работника. Бухгалтерия удерживает эти средства по их заявлению. Каждый член профсоюза пишет заявление, дирекция подписывает. Это стандартная процедура.

**– Независимых профсоюзов на вашем предприятии нет?**

– Нет. Они даже и не пытались прийти к нам. Но у нас на самом деле профсоюз хорошо работает.

Что касается в целом работы завода, то пока мы на распутье. Не ясно, что в июне будет, какое решение вынесет суд по банкротству, как дальше сложится. Но работаем! И надеемся на лучшее…

**Марина КОКТЫШ.**

У Николая Ладутько есть план по развитию предприятия.

БЕЛАПАН

